# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1592) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 16 ЛІСТАПАДА 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## НА СЦЭНЕ — „ДУБІНЫ“

Апошнія гады ў нашым беларускім руху адзначаліся новай культурнай з'явай — паявіліся маладзёжныя музычныя калектывы, якія падхапілі са сваіх асяроддзяў найбольш папулярныя народныя песні і вяртаюць іх гэтаму асяроддзю ў новым маладзёжным і модным сёння выкананні. Яны гуртуюць вакол сябе гэтым самым і моладзь, і старэйшых, моцнымі ўдарамі ўжо не бубна, а перкусіі выстукваюць рытмічныя такты добра вядомых і найбольш папулярных на ўсіх вясковых урачыстасцях мелодый, выклікаючы захапленне і сваім уменнем, і хараством родных песень.

Першым звонам, апавяшчаючым гэтую новую з'яву, было здабыццё самавара ў Зялёнай Гуры хлопцамі з Беластока, якія і назваліся „Звонам“. Граючыя і спяваючыя калектывы вядомы цяпер у розных ваколіцах Беласточчыны. А найбольшай папулярнасцю сярод іх карыстаецца на Гайнаўшчыне калектыў „Дубіны“.

19 кастрычніка гэты калектыў паказаў сябе ў поўнай красе на сцэне Беластоцкай філармоніі. Гэты самадзейны ў кожным сэнсе калектыў даў у Беластоку два двухгадзінныя канцэрты пры запоўненай да апошняга месца зале на 470 месц, а многія адышлі ад касы без білетаў. Такім чынам, на гэтым канцэрце пабывала каля 1000 чалавек, а ахвотных было значна больш.

Канцэрт складаўся амаль выключна з беларускіх песень (на 25 выкананых было 3 рускія і 3 украінскія). Частка песень была вядома ўжо слухачам, галоўным чынам дзякуючы беларускім перадачам Польскага Радыё, у якіх амаль штотыдзень спявалі „Дубіны“. Нямала было і новых песень.

Кожную песню слухачы прымалі з вялікім энтузіязмам. Ужо ад першых мелодый зала пачала рытмічна адбіваць кожны такт, падспеўвала, а на заканчэнне ўзрывалася апладысментамі, воклічамі задавальнення, патрабавала бісавання. Гледачы, а ў большасці гэта была моладзь, з рассветленымі, разрумяненымі тварамі, з бляскам радасці ў вачах, выразна былі задаволены канцэртам. Моладзь шалела, а мая суседка, жанчына ў сярэднім узросце, ціха прамовіла: „Ой, як нам часам хочацца такое паслухаць!“

Хто ж гэтыя артысты? Адкуль? Як арганізаваўся гэты калектыў? Думаю, што гэта цікавіць і слухачоў канцэрта, ды і многіх тых, што на канцэрт „Дубіноў“ не трапілі.



Першы склад калектыву: Пятро Скепка, Марыёля Прыходская, Дзмітры Ціханюк, а за перкусіяй — Валодзя Скепка.

Арганізатарам і душой калектыву з'яўляецца Пятро Скепка, кіраўнік групы электрыкаў у Гайнаўцы. Яго першы кантакт з музыкай адбыўся ў раннія дзіцячыя гады, калі да іх у госці прыехалі з Чалябінска сваякі і прывезлі гармошку на 80 басоў. Малы Пятрок як нацягнуў на свае плечкі яе рамяні, так, амаль не скідаючы, ледзь не спаў з ёй, пакуль не прымусіў яе слухацца і граць тое, што хацелася. Першы раз перад гледачамі выступіў у пятым класе на нейкай урачыстасці для вучняў школы. А потым ужо граў заўсёды, дзе і калі было трэба. Хадзіў нейкі час у музычнае агніска, але не скончыў яго, бо паступіў вучыцца ў Беластоцкі электрычны тэхнікум. У Беластоку трапіў у „Курпі зялёныя“. Успамінае гэты час з вялікай прыемнасцю і ўдзячнасцю да свайго настаўніка, якім быў Веслаў Дамброўскі. У „Курпях“ Пятро спяваў тэнарам, танцаваў, граў. Потым — служыў у войску. Там таксама граў, але ўжо ў духавым аркестры. А вечарамі — на забавах. Вярнуўшыся з войска

(Працяг на стар. 5)




Канцэрт вялі вучні белліцэя ў Гайнаўцы Галіна Красько і Андрэй Варанецкі.




### НЕ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ

Я не магу зразумець тае недарэчнасці ў некаторых нашых грамадзян таксама, як не можа зразумець яе Алесь Барскі, пішучы „Аб нігілізме“ ў сорак другім нумары „Нівы“. Бо выходзіць так: з аднаго боку, усенька, што добрае, звязана з народам, а, з другога боку, усё, што дрэннае, звязана з дзяржаваю, ад дзяржавы паходзіць. Часта пытаюся я ў знаёмых і калег, чаму яны так безразумна адносяцца да сваёй дзяржавы. І аж сорамна слухаць, як яны пачынаюць тады сабак вешаць на дзяржаве — і за крызіс той, і за чэргі пад крамамі, і за недахоп машын, і за тое нават, што польскія футбалісты прайграюць. Я цалкам згодны з Барскім, калі ён гаворыць пра праявы „безразумнага нігілізму“ сярод „мяшчан“. З другога боку ёсць шмат праяваў зла ў галіне вытворчасці, напрыклад, у выпуску кніжак, якія распадаюцца ў руках яшчэ пры куплі іх, у вырабе алоўкаў, якімі ні пісаць, ні рысаваць. Нават маленькія школьнікі ўжо ведаюць пра тое, што не польскія школьныя вырабы лепшыя, а кітайскія або англійскія. Англійскімі цацкамі можна пагуляць, польскімі доўга не пагуляеш, парасападаюцца яны.

А мне здаецца, што няма нічога даражэйшага ў свеце, чым свая дзяржава, самастойная, з сваімі парадкамі, урадам, нашымі праблемамі, асветай, культурай, дэмакратыяй, калі нацыянальнасць развіваецца, а не занікае, і калі людзі не саромяцца свайго паходжання.

Незразумела мне не толькі тое, чаму людзі выракаюцца сваёй дзяржавы, але і тое, чаму род чалавечы падзяліўся ўсюды на дзяржавы? Думаю, што таму кожны народ марыць пра сваю самастойнасць, бо няма ў свеце роўнасці, пашаны да праўды, і адна нацыя імкнецца падпарадкаваць сабе іншую, зняволіць.

**Міхась Махнацкі**

### Я СУПРОЦЬ ЛАЦІНКІ

Я ўважліва прачытаў „Тры справы і прапановы“ Рышарда Бутайлы са Свінавусця: якой павінна быць „Ніва“? Я нямала езджу па краіне, бачу і разумею, і яшчэ ніхто мне не сказаў, каб „Ніву“ друкаваць лацінскімі літарамі, як падказвае тое менавіта Бутайла. Бо і каму гэта патрэбна? Мы, беларусы, маем сваю прыгожую літаратурную мову і свой алфавіт, і нашто нам лацінскі (?!). Друкаваць „Ніву“ лацінкаю гэта так, як бы друкаваць яе па-польску. А калі па-

(Працяг на стар. 4)




## АБ ДАРЫ СЭРЦА

Гутарка пойдзе аб дарах на Беларускі музей у Гайнаўцы. Не буду прыгадваць лёсаў былога Беларускага музея ў Белавежы — гэта ўжо гісторыя, а як вядома, мінулага змяніць нельга, хаця варта яго пазнаваць. Сёння цікавіць мяне лёс Беларускага музея, якога пакуль што няма, аднак горача верым, што ён будзе. У кожным выпадку ў дзейнасці ГП БГКТ музей трактуецца як найбольш прыярытэтная справа. Вынікае гэта з нашага пераканання, што ніякая меншасная нацыянальная група не сфарміруе ўласцівага свайму будучыню, не пазнаўшы сваёй мінуўшчыны. Вось гэтаму і мае служыць этнаграфічны і гістарычны музей. І яшчэ адно. Імкнучыся да захавання і канцэнтрацыі этнаграфічных экспанатаў, хочам такім чынам аддаць пашану нашым бацькам, дзедам і продкам, якія з'яўляюцца стваральнікамі тых экспанатаў, якія пакуль што яшчэ захаваліся ў беларускіх вёсках.

Ездзячы па Гайнаўшчыне, Бельшчыне, Сямяцічыне, Дуброўшчыне і Сакольшчыне і гаворачы з людзьмі аб нашай музейнай ідэі, усюды, дзе б мы не былі, сустракаліся з добрай воляй людзей і з іх гатоўнасцю перадаць Беларускаму музею экспанаты. А што датычыцца збору фінансавых сродкаў, дык, дарагія чытачы, самі ведаеце, які ёсць водгук на наш заклік у справе грашовых ахвяр. Безупынна плывуць ахвяры на музей. Ахвяры вялікія і малыя. Зрэшты, не можа быць тут гутаркі аб дарах малых, бо ў этычных катэгорыях той, хто даў некалькі дзесяткаў тысяч, не мае перавагі над тым, хто даў толькі некалькі дзесяткаў злотых. Як жа глыбока кранаюць ахвяры школьнікаў, якія ўносяць у фонд музея па сто, па пяцьдзесят ці нават па дваццаць залатовак. Дзякуем вам, дзеткі, за гэтыя вялікія дары, якім няма цаны, бо яны — дары сэрца. А як жа ж радасна, што беларусы, якіх лёс кінуў у далёкую Аўстралію, Англію, Амерыку, Канаду, прысылаюць грошы на музей. Дзякуем вам, суродзічы! Упішам вашы прозвішчы ў Ганаровую кнігу ахвярадаўцаў. Лічым таксама на дапамогу з боку БССР. Работнікі нашага музея ў будучым захочуць наведаць БССР і пазнаёміцца з экспазіцыямі беларускіх этнаграфічных музеяў.

Зразумела, што дапамога Беларускаму музею не можа быць аднаразовай. Патрабуем не дзесяткаў, а соцень мільёнаў злотых і таму звяртаемся да ўсіх даваць па меры магчымасцей як найчасцей, бо патрэбы як сёння, так і ў будучыні аграмадныя.

І яшчэ адно, на гэты раз балючае сцвярджэнне. На жаль, ёсць нават высокапастаўленыя „беларускія дзеячы", якія дагэтуль не далі на музей нават адной залатоўкі. Калі б я тут апублікаваў іх прозвішчы, чытачы сказалі б, што я хлушу, а гэта ж праўда. Будзем верыць, што прыйдзе і да іх апамятанне і ўнясуць яны свой годны ўклад, адэкватны да сваіх магчымасцей.

Дарагія чытачы, памятайма, што кожны ваш узнос гэта цэгла ў фундамент і сцены нашага музея, які будзе нашай супольнай уласнасцю. Нас у Польшчы 350.000. Калі б кожны беларус унёс толькі сто злотых, сабралі б мы 35 мільёнаў злотых. А ці ж не ў стане кожны з нас такую суму даць? Верым, што ў далейшым будзе плысці крыніца высакародных ахвяр на музей і што гэта крыніца будзе ўсё глыбейшай і шырэйшай.

**Алесь Баркі**




### БРЭСТ

Новы аэравакзальны комплекс прыняў першых пасажыраў. Яго будынак, спраектаваны мясцовымі архітэктарамі і інжынерамі, па форме нагадвае дэльтаплан. Аўтаматызавана падача грузаў і ручной паклажы, створана электронная сістэма інфармацыі. Комплекс забяспечыць дакладную і зладжаную работу службаў аэрапорта, максімум зручнасцей для пасажыраў.

### ГРОДНА

У гродзенскім вытворчым аб'яднанні „Азот" імя С.О. Прытыцкага пачаў працаваць новы цэх бытавой хіміі. Тут наладжан выпуск тавараў народнага спажывання. Пластмасавыя вырабы для радыёпрамысловасці, тавары бытавой хіміі, а таксама запчасткі для аўтамашын занялі важнае месца ў наменклатуры прадпрыемства.

У аб'яднанні створана ініцыятыўная група для вывучэння попыту і патрэб насельніцтва, пошуку рэзерваў нарошчвання выпуску неабходных тавараў.

### ГОМЕЛЬ

Факультэт перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі спецыялістаў народнай гаспадаркі адкрыт у Гомельскім дзяржаўным універсітэце. Яго слухачамі сталі інжынерна-тэхнічныя работнікі вытворчага аб'яднання „Гомсельмаш", радыёзавода, кандытарскай фабрыкі „Спартак", завода пускавых рухавікоў і іншых прамысловых прадпрыемстваў горада. Яны без адрыву ад вытворчасці папаўняюць свае прафесіянальныя веды. Навучальная праграма накіравана на авалоданне праблемамі паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу.

### БАБРУЙСК

Сёлета ў вытворчым аб'яднанні „Бабруйскфермамаш" пачнецца выпуск мадэрнізаванай машыны для ўнясення арганічных угнаенняў. На яе вытворчасць спатрэбіцца металу на 500 кілаграмаў менш, чым на папярэдні ўзор, грузападымальнасць жа яе не знізіцца. Новы раскідвальнік распрацаваны інжынерамі аб'яднання. Яны палепшылі канструкцыю рамы, удасканалілі транспарцёр, змянілі іншыя вузлы і дэталі.

Машына, па заключэнню спецыялістаў, будзе больш надзейная ў эксплуатацыі. Яе можна выкарыстоўваць і ў якасці транспартнага прычэпа.

### МІНСК

Незвычайную для сябе прадукцыю асвоіла Мінская більярдная фабрыка. Тут пачата вытворчасць універсальных гімнастычных комплексаў, прызначаных спецыяльна для дзіцячых садоў і падрыхтоўчых класаў сярэдніх школ. Шведскія сценкі, перакладзіны, вяровачныя лесвіцы, трэнажоры і іншыя снарады дапамогуць дзецям далучыцца да фізкультуры. Яны кампактныя, лёгка разбіраюцца і збіраюцца, дзякуючы чаму можна хутка абнаўляць спортзалу.

### МАСТЫ

Ніколі яшчэ на вуліцах і плошчах Мастоў не збіралася столькі людзей, як у час свята, прысвечанага 500-годдзю горада. Яны былі сведкамі тэатралізаванага прадстаўлення, якое ўзнавіла яркія старонкі гісторыі. Абліча старажытнага горада ўпрыгожылі сучасныя жылыя мікраараёны, буйны спартыўны комплекс, кінатэатр, іншыя навабудоўлі.

У час урачыстасцей мастаўчанам уручана Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР, якой горад удастоен за поспехі ў сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці і ў сувязі з 500-годдзем з дня заснавання.

### КАРЭЛІЧЫ

Скульптурныя кампазіцыі герояў любімых казак малышоў упрыгожылі двор дзіцячага сада, пабудаванага ў калгасе імя П.А. Жалезняковіча. На казачны церам падобны і двухпавярховы белакаменны будынак, гаспадарамі якога сталі 140 хлопчыкаў і дзяўчынак. Тут утульныя пакоі для гульняў, спальні, сталовая, музычныя класы, спартыўныя пляцоўкі. Для прывозу дзяцей з аддаленых вёсак выдзелен спецыяльны аўтобус.

Дзіцячыя сады цяпер ёсць ва ўсіх калгасах і саўгасах раёна. Пабудаваць іх дапамагло аб'яднанне сродкаў мясцовага бюджэту і гаспадарак.

### АСІПОВІЧЫ

Праз сорак два гады жыхару горада пенсіянеру Данілу Домскаму ўручаны баявыя ўзнагароды. Не ведаў франтавік, што яго гераізм і мужнасць высока ацэнены ў Польшчы. Медалі „Перамогі і Свабоды", „За Варшаву", „Знак Грунвальда" знайшлі героя.

### СПОРТ

Дзюдо. Зборная СССР заваявала ў сталіцы Аўстрыі Вена Кубак свету-86. На рахунку савецкіх дзюдзістаў тры залатыя медалі (у тым ліку ў мінчаніна Віталя Песняка), адна сярэбраная і адна бронзавая ўзнагароды.




### ТЭРОР ПАЛІЦЫІ

Якія ўрокі атрымала з падзей „гарачай восені" 1985 года англійская паліцыя? Як вядома, расавыя выступленні ў „каляровых" гета многіх брытанскіх гарадоў з'явіліся пратэстам супраць наступлення ўлад на грамадзянскія правы імігрантаў. Дэманстрацыі ў гета былі жорстка падаўлены „ахоўнікамі парадку". Гэты метад „вырашэння" расавай праблемы, мяркуючы па дзеяннях улад, будзе прымяняцца і надалей. Але з яшчэ большай жорсткасцю, на яшчэ больш высокім тэхнічным узроўні...

Прэса адзначае, што „бунты насельніцтва" іміграцкіх кварталаў прымусілі ўрад звярнуцца да „зусім свежага каланіяльнага вопыту Ганконга", дзе на чале паліцыі ўсё яшчэ стаіць англійскі каралеўскі камісар. Той быў выкліканы на радзіму, каб абучыць начальнікаў паліцыі шасці англійскіх графстваў „перадавым" метадам вядзення вайны з цывільным насельніцтвам.

Абучэнне вялося па падручніку, што апісвае аперацыі, у ходзе якіх паліцыя ўразаецца ў натоўп „клінам", прымяняе тактыку „тэрору супраць усіх без разбору", выкарыстоўвае прыём „вывядзення са строю"... Апошняе, у прыватнасці, прадугледжвае, што паліцэйскія, дзейнічаючы групамі па тры чалавекі, „ізалююць" тых, хто, на іх думку, з'яўляецца „лідэрамі дэманстрацый і падбухторшчыкамі хваляванняў". „Бобі" павінны „вывесці іх са строю" з дапамогай дубінак. Дзякуючы парадам камісара, амуніцыя англійскіх паліцэйскіх з'яўляецца цяпер дакладнай копіяй амуніцыі паліцыі ў Ганконгу — доўгая гумавая дубінка, два тыпы шчытоў — вялікі, што прыкрывае ўсё цела, абараняе ад агню і куль, і маленькі, круглы — для атакі і вядзення рукапашнага бою.

— Цяпер у нашых паліцэйскіх ёсць гранаты са слёзатачывым газам, каскі забяспечаны радыёпрыёмнікамі-перадатчыкамі. На верталётах, якія кантралююць сутычкі з паветра, устаноўлены тэлекамеры. Ёсць у нас і аўтамабілі, аснашчаныя вадзянымі гарматамі, — гаворыць шэф Скотланд-Ярда Кенет Ньюмен.

Пасля расавых хваляванняў 1981 года англійская паліцыя пачала запасацца пластыкавымі кулямі і газам сі-эс. Шэф Скотланд-Ярда прызнаў ужо рашэнне аб іх прымяненні „ў выпадку неабходнасці".

Нядаўна Скотланд-Ярд запрасіў групу журналістаў на палігон, прызначаны для адпрацоўкі метадаў барацьбы з „беспарадкамі". Навошта? Прэса павінна стварыць рэкламу паліцэйскім падрыхтаванням, рэкламу, заклікаючы запалохаць удзельнікаў выступленняў за грамадзянскія правы.

**С.А.**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

**студэнцкая старонка**

Грамадскі працэс, які адбыўся ў пасляваенны час, стварыў для многіх беларусаў шанц палітычнага і эканамічнага авансу. Вельмі лёгка сотні дзяцей беларускай вёскі атрымалі статус „гарадской інтэлігенцыі" (калі пра разуменні слова інтэлігенцыя браць пад увагу толькі заканчэнне вышэйшай навучальнай установы). З'ява пераходжання з адной сацыяльнай групы ў другую з'яўляецца звычайнай у кожным грамадстве, якое мае нейкія трывалыя якасці свайго існавання, напрыклад: пачуццё ўласнай культуры, народ, дзяржаўнасць. Аднак умовы, у якіх апынулася наша „беларуская інтэлігенцыя" ў Польшчы, былі дыяметральна розныя ад іншых народаў. Наступіў вельмі хуткі працэс дэнацыяналізацыі, а адбылося гэта проста таму, што не было часу ані ахвоты (у часе т.зв. эканамічнага і палітычнага прыспяшэння), каб гэтым людзям запэўніць умовы на азнаямленне з уласнай гісторыяй і культурай. Эканамічны быт асэнсаваў і асэнсоўвае надалей многіх беларусаў, хаця цяперашні час дае большыя магчымасці спазнання роднай дзялянкі. Некаторыя лічаць, што старэйшае пакаленне ўжо страчана для нацыянальнай справы. Не, яшчэ цяпер ёсць час, каб гэтыя людзі пашукалі дзесьці ў сваёй душы і прыпомнілі на пачатак нейкі ўрывак песні, якую калісьці спявалі са сваімі сябрамі і сяброўкамі. Аднак ім самім будзе вельмі цяжка гэта зрабіць. І тут вялікія магчымасці мае БГКТ. Фестываль беларускай культуры, які адбыўся




сёлета ў Беластоку, выдаецца мне першым крокам у гэтым напрамку. Ад успаміну свайго мінулага і пашаны да гэтага ўжо невялікі крок да нацыянальнага ўсведамлення. Над гэтым нам усім трэба многа працаваць.

Светлая і свядомая інтэлігенцыя гэта сіла кожнага народа. А што дзеецца з так званай „беларускай інтэлігенцыяй"? Якая з яе карысць нашаму народу? Ніякая. Быццам у трылогіі Я. Коласа „На ростанях", дзе апрача ігры ў карты і добрай яды нічога іх не кранае. Ці ж гэта мае быць чарговая паралель беларускай гісторыі? Большасць з гэтых людзей жыве на Беласточчыне. Лекары, інжынеры, а перш за ўсё настаўнікі могуць многа зрабіць. Іх праца штодзённы кантакт з дарослымі, моладдзю, дзецьмі — і тут вялікія магчымасці, каб весці нацыянальную дзейнасць. Аднак усё больш, на жаль, можна ўбачыць беларусаў, якія з'яўляюцца „беларусамі" толькі на працягу некалькіх гадзін у дзень — на нейкай сустрэчы, ці па прычыне выконвання сваіх абавязкаў, менш ці болей звязаных з беларускай справай. На жаль, паміж імі сустракаюцца і настаўнікі беларускай мовы. Такія з'явы ў нашым грамадстве павінны трывожыць кожнага. Трэба зразумець, што нам як нацыі, спосабу, якім можам абараніць і захаваць сваю своеасаблівасць, культуру, ніхто не падкажа. Мусім гэта зрабіць самі.

І страшным быў бы дзень (у Біблії напісана, што прыйдзе такі час, калі чалавек будзе шукаць след другога чалавека), калі б беларус мусіў шукаць след другога беларуса.

**Яўген Вапа**

### ПРЫЙШОЎ ЧАС АДЗНАЧЫЦЬ СВАЮ ПРЫСУТНАСЦЬ НА ЛІТАРАТУРНАЙ НІВЕ!!!

Рыхтуецца літаратурна-мастацкі альманах „Прысутнасць". Рэдактар, па самавыбару, Валянцін Сельвесюк. Альманах мастацкі. Ніякай публіцыстыкі. Строгія законы.

Альманах маладзёжна-студэнцкі, але толькі таму, што рыхтуюць яго маладыя студэнты. Адкрыты для ўсіх, нягледзячы на гады, хто адчувае патрэбу выявіць свой талент. Аднак жа... перад тым, як вырашыце паслаць свае раманы, апавяданні, паэмы, вершы і пераклады (мастацкія!) задумайцеся, ці ваша прысутнасць патрабуе адзначэння. Зрабіце кароткі рахунак сумлення і, калі яго вынік будзе хаця б нулявы, станавіцеся на праверку!

Звяртаемся да вас, тыя, што не адчуваюць патрэбы паказваць сваю творчасць, — гляньце кругом сябе, на ўсіх тых, што пхаюцца ў літаратуру, не маючы на гэта ніякіх правоў! Супрацьстаўцеся ім!

Вершы, паэмы, пераклады, раманы, апавяданні, эсэ!

Старыя і маладыя, здаровыя і хворыя, п'яніцы і абстыненты! Прысылайце свае творы ў новы, малады літаратурна-мастацкі альманах „Прысутнасць"!!!

Рэдакцыя альманаха не дае вам ніякай гарантыі, што:

1) вашы творы будуць надрукаваны;
2) не будзем прасіць паправіць іх, або скараціць;
3) надрукуем іх без памылак;
4) альманах увогуле ўбачыць свет.

Абяцаем толькі сумленна, што:

1) не атрымаеце ніякіх ганарараў;
2) рэдактары будуць вас мучыць усімі спосабамі;
3) за ўсялякія непрыемныя пасля доўнасці адказнасць спадзе на вас, як аўтараў.

Чакаем прапаноў. Узровень якасці неабмежаваны, аб'ём твораў — таксама.

**Малады літаратурна-мастацкі альманах „Прысутнасць"!!!**

Адрасы для карэспандэнцыі:

Walenty Sielwiesiuk
Mochnate 86
17-206 Stary Kornin

Mikołaj Wawrzeniuk
DS. ul. Kickiego p. 816
04-373 Warszawa

Спадзяваны тэрмін выхаду ў свет альманаха: вясна 1987 г. (юбілейны год выпуску ў космас першага сатэліта Зямлі!).




У Беластоцкім запаведніку

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## КЛЕАФАС ГАРМОНІК

Вечарэла. Асенні вецер нёс мокрае лісце па скрыжаванні вуліц, раптоўна ўпадаў у каньён Звежынецкай.

Лілька і Алька загарнуліся ў плашчы, паставілі каўняры. Лілька вылавіла губамі з пачкі папярос адну „клубовую", пекучы пальцы, запаліла яе гаснучай запалкай.

Дрыгацела святло ліловых лямпаў. Машыны, пырскаючы граззю на згорбленых пешаходаў, спяшаліся перад ноччу. Халадна. Лілька з палёгкай глытала дым папяросы — пацяплела.

— Добры вечар, дзяўчынкі! — спыніўся каля іх невысокі мужчына ў светлай куртцы з капішонам, падобны на адкормленага, нясмелага зайца.

— Добры! — адбуркнула Алька.

— Можна ад вас прыкурыць?

— А куры, чалавеча, травіся! Мужчына закурыў, павесялеў, абняў дзяўчат пад бакі кароткімі рукамі.

— Бачу, вы вясёлыя дзяўчаткі. Хадземце да мяне, пагрэемся.

— Прабачце, мы спяшаемся...

— А я тут жыву, вось у гэтым блоку, на I паверсе. Мяне завуць Клеафас Гармонік...

Пайшлі.

— Толькі ціха, каб ніхто не бачыў і жонцы не данёс! — прашаптаў Клеафас пад сваімі дзвярыма.

Распрануліся ў пярэдняй, аббітай дрэвападобнай плітой. Клеафас павёў дзяўчат у пакойчык. Хутка засунуў занавеску.

— Гэта каб не бачыў суседкравец. Ён заўсёды падглядае, хто дзе што робіць...

Клеафас выняў з буфета талерачку з сухім піражным, надпітую траха бутэльку гарэлкі з парэчкавым сокам, запрасіў на кухню Альку, каб зрабіла каву.

— Ты якую музычку пусці! — дамагалася з пакойчыка Лілька, сукочучы нагамі ў шкарпэтках па нейлоне, якім засланы быў новы турэцкі дыван.

— Ціха будзь там, ціха. Сядзі спакойна, зараз каву прынясем...

Клеафас наліў па чарцы і закруціў бутэльку.

— Ты куды яе хаваеш?! — прытрымала Лілька руку Клеафаса.

Выпіўшы, Клеафас набраў адвагі і „расклеіўся". Даўно ўжо не меў з кім шчыра пагутарыць Дзе там, каб якую дзяўчыну „сарваць"! Праз усё яго 36-гадовае жыццё ніводная баба яго не захацела...

— А жонка? Як ты яе ўзяў" — пацікавілася Алька.

Ажанілі Клеафаса. З Лідай ужо 8 год разам жывуць. Пачыналі, калі яму было 28, ёй — 34. З кватэрай жонку ўзяў. Усе цяжка заробленыя грошы на яе аддае. А сам тут усё як у гасцях. Каб хаця дзіця якое трапі-

(Працяг на стар 5)




## ЛЕПЕЙ, ЧЫМ БЫЛО

Быўшы апошнім часам у Беластоку, рашыла я вярнуцца дахаты аўтобусам. Не першы раз, зрэшты. Аднак у той дзень мне не пашанцавала: мой аўтобус па тэхнічных прычынах не мог ехаць. І не толькі „мой", іншыя таксама. Аж некалькі аўтобусаў не паехала, як гаварылася, па тэхнічных прычынах. Вядома, што цяпер бяда з усялякімі запаснымі часткамі, але ўсё-такі падумалася: чаму ж яны раней не адрамантавалі іх? Добра яшчэ, калі хто можа вярнуцца дамоў, скажам, цягніком, але не ўсюды ж ён ездзіць, дык тады хоць ты таксі наймай і плаці тысячы!

Разам са мною чакала гэтага аўтобуса адна настаўніца. Яна сказала, што мы лепей зробім, калі даедзем аўтобусам да Гайнаўкі, а з Гайнаўкі — ужо цягніком дамоў. Чакалі мы, чакалі, а малы мой увесь час плакаў.

Нарэшце, прычакалі мы аўтобуса. Людзей за гэты час назбіралася столькі, што аж цёмна зрабілася. Я, з малым на руках, не дапхнулася б да дзвярэй, калі б не тое, што мяне прапусцілі маладыя людзі (на якіх мы часам так наракаем). Прапусцілі і аднаго старэйшага мужчыну, і жанчын, што прыемна здзівіла мяне. „Ну, — падумала я, — ёсць яшчэ культурныя людзі на гэтым свеце". Увайшоўшы ў сярэдзіну, убачыла я, што свабодных крэслаў ужо няма, усе заняты. Праўда, адно было свабоднае, яле яго, амаль аберуч, трымала нейкая маці дзеля свайго маладога сына. „Во табе і культура!" — падумала я, глянуўшы на гэтую бабу. Месца ўступіла мне маладая чарнявенькая жанчына, хоць здаровыя мужчыны нават і не пачырванелі ад таго, павярнуўшы свае галовы ў вокны.

А спрабуй скажы яму, што ён хам, дык зазлуе і нагамі пачне тупаць, рыцарам яго называй, во! Ёсць, аднак жа, лепей, чым было: яшчэ да нядаўна ніхто і нікому ў нічым не ўступаў. А цяпер, во, знайшліся і хлопцы, якія лічаць сваім гонарам ушанаваць жанчыну, прапусціць яе першай у тлуме пад дзвярыма аўтобуса, і жанчына знайшлася маладая, якая ўступіла сваё месца маці з дзіцём на руках...

**Аўрора**

(Працяг са стар. 1)

# НА СЦЭНЕ— „ДУБІНЫ"

пачаў працаваць электрыкам у Гайнаўцы, але не мог не граць.

Яшчэ ў 1973 годзе арганізаваў першую групу музыкантаў: трыо — гармонь, гітара і бубен. Гралі з ім у той час Янка Пракапюк з Чыжыкаў і Генік Сегень з Дубіноў, а пазней — брат Валодзік. Пасля войска зноў пачаў збіраць хлопцаў. Трапіў на Шурку Ціханюка з Трашчотак.

Гралі тады яны папулярную сярод маладых музыку моцнага ўдару. Нядрэнна выходзіла, падабалася. Але раз паспрабавалі зайграць нешта свойскае. І ўбачылі, як пацяплелі вочы слухачоў, як твары пакрыла лагодная, сардэчная ўсмешка. Зразумеў Пятро тады, чаго трэба людзям. І гэтае зразуменне, людская ўдзячнасць, патрэба сэрц і вывелі гэтага здольнага хлопца і яго сяброў на беларускую сцежку ў музыцы.

Цяпер Пятро ўключаецца ў кожнае мерапрыемства, калі бачыць, што можа зрабіць нешта цікавае. Памагаў у Гайнаўскім беларускім ліцэі арганізаваць музычны калектыў „Гайтон" ініцыятарам якога была ў той час вучаніца другога класа Марыёля Прыходская. Пазней Пятро запрапанаваў Марыёлі спяваць разам з яго калектывам. І вось Марыёля ўжо спявае тут чатыры гады.

Пасля ліцэя Марыёля скончыла паматуральную школу выхавацельніц прадшколля і працуе ў Гайнаўцы з шасцігодкамі, а яе група ўжо ведае шмат песень, у тым ліку і беларускіх.

У той жа час Шурку Ціханюка, які адыходзіў у войска, змяніў яго малодшы і не менш здольны брат Дзмітры, якога сябры называюць Дымком (ад імені), які таксама з малодшых гадоў вучыўся ад брата ўсяму, што той умеў. Навучыўся ён і граць разам з ім на гітары і акардэоне. Пазней аказалася, што ў Дымка яшчэ і вельмі прыгожы голас. Будучы студэнтам беластоцкай палітэхнікі, ён спяваў у царкоўных хорах Беластока і Гайнаўкі, два разы ўдзельнічаў у фестывалях царкоўнай музыкі. Цяпер Дзмітры Ціханюк спявае і працуе ў гайнаўскай царкве.

Малодшы брат Пятра Уладзімір Скепка грае на перкусіі. Гаварыць аб сабе не любіць: вось грае і працуе на хімічнай. „Нядрэнна было б, — жартуе, — паказаць на старыя гады сваім дзецям фатаграфію ў беларускай кашулі за перкусіяй. Хай ведаюць"!. А ён жа ж яшчэ зусім хлапчук!

У мінулым годзе Пятро пачаў збіраць другі склад калектыву. каб была падмена, калі б здарылася патрэба. Ён запрапанаваў далучыцца да іх калектыву Андрэю Іванюку і Галінцы Якімюк, вучням гайнаўскага белліцэя. Цяпер Андрэй ужо студэнт філіяла універсітэта ў Беластоку, а Галінка рыхтуецца здаваць матуру. Не магу не дадаць, што, будучы яшчэ ў другім класе школы ў Чыжах, Галінка заваявала ўзнагароду „Зоркі" на конкурсе беларускай песні. Далучыўся да гэтай пары маладых яшчэ і брат Марыёлі Ірэк Прыходскі. Ён таксама вучыўся граць і спяваць толькі ад сваёй сястры.

Гэтая тройка маладых членаў калектыву выступіла ў другой палове канцэрта і ўнесла немалы ўклад у агульны яго поспех. І яны спявалі на біс, і ім білі несціхаючыя бравы.

Галінка Якімюк і Андрэй Іванюк.

Цяпер планы калектыву вельмі цікавыя. Вырашылі яны ўдзельнічаць у студэнцкім фестывалі калектываў нацыянальных меншасцей. Шыюць беларускія касцюмы, стараюцца дастаць лепшыя інструменты. У далейшых планах Пятра — далучыць да калектыву яшчэ дзве танцавальныя пары і зрабіць такім чынам беларускі калектыў песні і танца, нешта накшталт былой і незабыўнай у нашым асяроддзі „Лявоніхі".

Група вядзе пошукі новага рэпертуару. Стараюцца запісваць як мага больш песень ад старых жыхароў вёсак. У Дубінах запісалі „Хлопцаў-рыбалоўцаў" і „Там за лесам, за гарой". Гэтая другая песня, здаецца, паходзіць яшчэ з часоў Кастуся Каліноўскага. У Грабаўцы Пятро запісаў цікавыя калядныя песні. У апрацоўцы тэкстаў вялікую дапамогу аказваюць настаўнікі і вучні беларускага ліцэя. Калектыў вельмі хацеў бы, каб нехта з нашых беларускіх паэтаў захацеў супрацоўнічаць з калектывам у пісанні тэкстаў да песень. Прыме кожную прапанову.

Ад наступнага года Пятро Скепка згадзіўся працаваць на паўштата ў гмінным асяродку культуры ў Дубінах, дзе месціцца сядзіба калектыву. Мае намер зрабіць з дубінскай святліцы сапраўдны беларускі клуб.

Такія планы. А пакуль што Пятро стараецца памагаць ужо існуючым маладзёжным калектывам з ваколіц Гайнаўкі. Ён апякуецца музычным калектывам у ліцэі, памагае дзявочаму калектыву з Нараўкі, два гады назад давёў да цэнтральнага агляду беларускай песні калектыў з Міклашоў.

Аж дзіўна, калі гэты чалавек мае на ўсё час! А пры ўсім гэтым яго брыгада электрыкаў вядзе работы на пяці будовах Гайнаўкі. І выконваюць яны свае абавязкі вельмі добра.

Варта яшчэ дадаць, што ўвесь даход з абодвух беластоцкіх канцэртаў калектыў перадаў у фонд пабудовы Беларускага музея.

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара

(Працяг са стар. 3)

## КЛЕАФАС ГАРМОНІК

лася... Было б, пэўна, інакш. А так...

— А дзе яна цяпер, твая Ліда?

— Пасля работы паехала да бацькоў, на Баяры. Усё часцей там сядзіць. Скажы што ёй — о! Геройская баба!

— Нудна табе аднаму? Таму, думаў, запросіш нейкіх дзяўчынак, га? — дапытвалася Лілька, ціхачом перакуліўшы трэцюю чарку.

— Бачу: вясёлыя, свабодныя — кураць на вуліцы, значыць, пагаварыць з імі можна...

— Бачыш ты! — паківала галавой Алька. — Ну, Клеафас, забяры з мяне свае рукі, у мяне грудзі штучныя!

— Цішэй ты, кравец пачуе! — спалохаўся Клеафас і перанёс сваё зацікаўленне на плоскія грудзі Лількі, якая якраз канчала бутэльку, праўда, моцна „хрышчаную" сокам.

— Слабенька тут у цябе! — паспачувала Клеафасу Лілька. — Не можаш нават пажыць як чалавек, гэты кравец цябе мучыць. Зняў бы ты гэты нейлон з дывана, пакачаўся б па ім здорава, як сабака, пакусаў бы гэты лак на мэблі!

— Ціха, не крычы! Алька, а ты куды?

— Ідзем ужо. Лілька, бяры свой плашч.

Клеафас глянуў на пустую бутэльку, крышыны піражнага і чорныя ад гушчы шклянкі.

— Вы што, выпілі цэлую бутэльку? Што скажа жонка? Пачакайце... Дзяўчаткі, не ідзіце яшчэ! Я не так хацеў... Пазваніце мне калі, дзяўчаткі, я такі адзінокі...

**Міра Лукша**





Czerniawska Elżbieta, Powstanie i systematyka statutów litewskich, Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Warszawskiego — Filia w Białymstoku, z. 46, Administracja i Ekonomia, Dział PR — Prace Prawnicze, 1985, t. 11, ss. 59—74.

Ziembiński Wojciech, Chrzest Litwy, Przegląd Katolicki, 1986, nr 11, ss. 1, 3.

**Jarmolik Włodzimierz, Między Krewem a Lublinem czyli o stosunkach polsko-litewskich w latach 1385—1569, Mówią Wieki, 1986, nr 2, ss. 28—33.**

**Turonek Jerzy, Geneza i działalność Białoruskiej Centralnej Rady (grudzień 1943—czerwiec 1944), Studia z** Dziejów ZSRR i Europy Środkowej, 1985, t. 21, ss. 99—120.

Czeropski Jarosław, Jawna i tajna oświata w okresie okupacji hitlerowskiej (1941—1944) na terenie byłego powiatu sokólskiego, Przegląd Historyczno-Oświatowy, 1985, nr 2, ss. 316——322.

Czeropski Jarosław, Odbudowa placówek wychowania przedszkolnego w Białymstoku w latach 1944—1949, Wychowanie w przedszkolu, 1985, nr 12, ss. 662—668.

Dworakowski Jan, Pierwsze lata białostockiego harcerstwa w Polsce Ludowej (1944—1945), Harcerstwo, 1985, nr 11/12, ss. 37—44.

Falkowski Wiesław, Narodowy Czyn Pomocy Szkole (w Bielsku Podlaskim), Oświata i Wychowanie, Wersja A, 1985, nr 20, s. 29.

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### СПАБОРНІЦТВА Ў ПЕРАПІВАННІ

Некаторыя старыя інфарматары сцвярджаюць, што здараліся такія гаспадары, якія ў пачатку вясельнай бяседы стараліся даць як найбольш гарэлкі і як найменш закускі. Такая практыка вынікала з перакanання, што падхмеленыя госці намнога больш шчодрыя, чым цвярозыя. Многія гавораць, што падпітыя госці ў тракце перапівання вялі свайго роду спаборніцтва. Здаралася, што асоба, звязаная такімі ці іншымі вузамі крыві з маладою або маладым, пабачыўшы, што зусім чужы вясельнік падарыў маладым болей, чым яна, чулася балюча закранутай. У такой сітуацыі прыступала да перапівання другі раз, дэкларуючы дадаткова акрэсленую суму грошай або нейкі дадатковы прадмет. У 1946 або ў 1947 годзе я быў выпадковым сведкам вельмі сімптомнай сцэны ў вёсцы Лука. На вуліцы біліся два пажылыя п'яныя жыхары і крычалі пры гэтым: „Ты, бадзяга, украў у мяне цялушку!" — „А ты ў мяне, сукін сын, забраў з хлява дзве авечкі". Характар сваркі мог бы сведчыць аб тым, што гэтыя грамадзяне адзін другога абакралі. Ад грамады мужчын, якія стаялі непадалёку, даведаўся я, што справа выглядала па-другому. Аказалася, што тыя, што біліся, былі тыдзень таму назад на вяселлі і ў часе перапівання спаборнічалі паміж сабою. Адзін з іх да задэклараванай спачатку авечкі дабавіў яшчэ адну авечку, а другі — замест задэкларыванага цяляці паабяцаў падарыць цялушку. Здараліся выпадкі, што паабяцаны ў часе перапівання дар пасля вяселля не быў дастаўлены маладым. Такі ўчынак трактаваўся як нягодны. У такім выпадку ашуканымі адчувалі сябе не толькі маладыя і бацькі, але і ўсе прысутныя вясельнікі. Такі чалавек асуджаўся не толькі людзьмі, але — у перакананні вясковай апініі — і Богам. Для ілюстрацыі прывяду такі прыклад. У перыяд акупацыі, у 1942 годзе, выходзіла замуж мая сястра. Яе хросны бацька, які жыў у суседняй вёсцы, паабяцаў, што падарыць ёй авечку. Аднак, авечкі гэтай пасля вяселля сястры не даставіў. Праз нейкі час адна з авечак гэтага гаспадара была „зарэзана" ваўком. Зараз жа пасля гэтага здарэння прыйшоў на наш панадворак сусед хроснага бацькі сястры і сказаў майму бацьку: „Бог пакараў тваго кума і наслаў воўка на тую авечку, катору ён паабяцаў, але не даў тваёй Маньцы" Памятаю, што я доўгія месяцы задумоўваўся над сказаным, бо ніяк не мог зразумець, як Бог мог наслаць ваўка якраз на тую авечку, якую паабяцаў, але не даў хросны бацька сястры. Урэшце спытаў бацьку, ці сапраўды Бог займаецца такімі справамі, як насыланне ваўкоў на авечкі. На гэта мне бацька адказаў: „Гэто так толькі гаворыцца".

Аднак трэба сказаць, што многія пажылыя жыхары Беласточчыны, асабліва жанчыны, але не толькі, свята перакананы, што не стрыманне абяцання, дадзенага ў часе перапівання, з'яўляецца грэхам, які будзе пасля смерці пакараны Богам. Вось выказванне жыхаркі Капітаншчыны Анны Карпюк:

„Бывало, бывало такое, што хтосьціка паабіцаў у часе перапіваня або якуюсь жывіну або пару пудоў збожа, а послі васеля ўзяў і ні даў, бо то нібыто забыў. О, такі учынок то быў вэльмі грэшны. І трэбо ведаць, што штосьціка такое то Бог залічаў да грэху і пасля смерці такі чалавек мусіў адпакутаваць за свой грэх. А і пэрэд людзьмі то таксамо устыд быў вэлікі. Такого чоловека, што ні здзержаў слова, даного на вэселі, то людзі і за чоловека не лічылі і, калі ему сталася якая бада, то его не толькі не шкадавалі, але, наадварот, гаварылі: „Такому то так і трэбо, бо вон ашуканец і нехай пацерпіт за свое".

**А. Баршчэўскі**




Дарагое „Сэрцайка"! Пішу табе, бо пэўная справа мяне вельмі збульверсавала. Ёсць у мяне на рабоце адзін калега. Заўсёды мілы, з усмешкай на твары, гаворыць прыцішаным голасам. Здавалася б, што няма чалавека мілейшага за яго. І вось аднойчы мне давялося быць сведкам яго тэлефоннай размовы з жонкай. А выглядала гэта так.

Захварэла яго маці, якая жыве на вёсцы разам з бацькам. Мой сябра гэтым фактам вельмі пераняўся і пазваніў, як толькі даведаўся, сваёй жонцы. Я думала, што ён захоча паведаміць ёй, што едзе на вёску, даведацца, што з маці, можа, трэба будзе яе ўзяць у горад, у бальніцу. Я ж ведала, што сябра мае вольны час. На жаль, размова выглядала зусім інакш. „Маеш звольніцца з працы і як найхутчэй ехаць на вёску, — сказаў ён, — даведацца, што там з маёй маці, і, калі трэба, прывезці яе ў бальніцу". Чую я, што жонка нейк там аднекваецца, нешта гаворыць: ці што часу не мае, ці што не можа звольніцца, бо вельмі занятая на рабоце. Але мой сябра быў станоўчы: „Маеш ехаць і ўсё. Няма ніякіх размоваў!", — і ў гэтым моманце ён трэснуў трубку на тэлефон.

Мне ад імя ўсяго жаночага роду зрабілася вельмі крыўдна. То ў канцы канцоў, чаму ж яна мае ехаць, калі хворая яго маці? Ну, разумею, не меў бы ён часу, быў бы сам хворы, ці што. Але ж мог бы паехаць і сам. Найгорш, аднак, прыбіла мяне катэгарычнасць яго тону. Што гэта значыць, маеш паехаць і ўсё? Што яна яму нарабак які? Ды і як ён мог паводзіць сябе так у маёй прысутнасці? І цяпер я і сама не ведаю, што думаць аб гэтым сваім калегу. Хто ён: разумны, дурань ці проста хам?

**Вера**

Вера! Думаю, што твой калега па рабоце проста вельмі маленькі чалавек. Ты, напэўна, памылілася ў яго ранейшай ацэнцы, калі табе здавалася, што ён чалавек мілы, бо ціхі і сімпатычны.

Чалавек, сапраўды вялікі, не мусіць падкрэсліваць сваёй вялікасці, сваёй улады, сваёй сілы, свайго розуму. Навошта? Ён жа і так вялікі, разумны і, калі трэба, адважны. Толькі маленькія людзі любяць выставіць кагосьці на смех, асабліва калі ёсць аўдыторыя. Ім здаецца тады, што яны лепшыя, вялікшыя, разумнейшыя. Шкада іх: якія яны ёсць, такімі застануцца! Твой калега знайшоў нязручны момант, каб паказаць сваю сілу: праявіў сваю „адвагу" ў адносінах да... жонкі. Больш таго, зрабіў гэта ў тэлефоннай размове, ды ў прысутнасці другой жанчыны.

Думаю, што такі чалавек можа быць табе калегам, але ў ніякім выпадку не сябрам. На такога сябра разлічваць нельга. Ён тады моцны, калі іншы слабы, інакш кажучы, маладзец супраць авец. Але трэба памятаць, што процiў малайца ён сам — аўца! Ды, зрэшты, навошта табе сябра-дурань, калі ёсць навокал разумнейшыя. Напэўна яго жонка выслухала б яго і намнога ахвотней і сімпатычней прыняла б яго просьбу, калі б зрабіў ён гэта ветліва і лагодна: захварэў усё ж не чужы для яе чалавек, а маці яе мужа! Але якое ж сэрца яна будзе мець да гэтай жанчыны, калі сыночак робіць з жонкі анучу ды яшчэ на вачах людзей... Так-так, каб усе абавязкова чулі і пераканаліся, які ён важны і станоўчы і якая слабая і нікчэмная ў яго жонка. А тое, што ён зрабіў сабе толькі антырэкламу, не прыйшло яму нават у галаву.

Лічу, што тваё абурэнне было вельмі нават на месцы.

**Сэрцайка**




### БЕЛАРУСКІЯ КАПЫТЦЫ

На 12 бульбін бярэм паўшклянкі мукі, 1 цыбуліну, 200 г саланіны, соль.

У сырую сцертую бульбу дадаць муку, соль і перамяшаць. Атрыманае цеста раскатаць і парэзаць на палоскі, а пасля на кавалкі даўжынёю 2—3 см, пасля чаго запячы ў духоўцы ў ванначцы, змазанай тлушчам. Запечаныя капытцы зварыць і падаць са смажанай цыбуляй і саланінай.

### БУЛЬБЯНЫЯ ПЯЛЬМЕНІ СА СМЯТАНАЙ

На 12 бульбін трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі мукі, 3—4 сталовыя лыжкі смятаны, соль і мясны фарш.

У сцертую бульбу дадаць муку і соль і ўсё перамяшаць. Мяса прапусціць праз мясарубку, дадаць сырое яйка, падсмажаную цыбулю, пасаліць і перамяшаць. З бульбяной масы рабіць невялікія аладкі, на сярэдзіну кожнай класці мясны фарш і спалучаць краі. Пяльмені зварыць у пасоленай вадзе і падаць са смятанай.

### КАТЛЕТЫ З ПЯЧУРЫЦ

На 650 г пячурыц трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі молатай булкі, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі растопленага масла, 2 цыбуліны, 5—6 бульбін, 2 сталовыя лыжкі масла.

Падрыхтаваныя пячурыцы зварыць у пасоленай вадзе, пасля чаго прапусціць іх праз мясарубку, дадаючы соль, сырое яйка і падсмажаную цыбулю. З гэтай масы падрыхтаваць катлеты, паніраваць іх у молатай булцы, смажыць. Падаваць з варанай бульбай, палітыя растопленым маслам.

### МОРКВА, ТУШАНАЯ З ЯБЛЫКАМІ

На 7 морквін узяць 4 яблыкі, 3 сталовыя лыжкі цукру, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.

Сырую моркву парэзаць, дадаць масла і крыху вады ды стушыць. На 15 мінут перад заканчэннем тушэння дадаць кавалкі яблыкаў, цукар, соль і масла.

**Гаспадыня**

## СОННІК

46

**Кавадла** — карысная праца; каваць на ім — цяжкая праца.
**Кавалерыст** — шум і неспакой.
**Каваля** бачыць — клопаты; быць ім — смерць прыяцеля.
**Кавярня** — схільнасць да гультайства.
**Кадзіла (ладан)** — няшчырая ліслівасць, падлізванне.
**Кадушка, бочка з віном** — шчасце; з вадой — смерць.
**Каза** — багацце, многа дзяцей; казінае малако — выздараўленне; статак коз — хуткае павелічэнне маёмасці; даіць — хвароба ў сям'і; белая — добры, даходны занятак.
**Казармы** — неспадзяваная дапамога.
**Казёл** — удача ў каханні; спаткаеш праціўніка, канкурэнта; з рагамі — цябе напужаюць; драўляны — удача ў гандлі.
**Кайданы** насіць — добрая пасада; бачыць іх — балбатня ды прага раскошы давядуць цябе да непрыемнасцяў.
**Какаіну** прымаць — хваробы.
**Кактус** — зробіш неадпаведныя ўчынкі.
**Каласы** рваць — град паб'е збожжа; бачыць — зычанні збудуцца; вязаць — публічны сорам, які табе давядзецца перажыць; таптаць нагамі — твае планы рухнулі; вянок з калоссем — запрашэнне на ўрачыстасць, напрыклад, на дажынкі.
**Калаццё** — хатнія клопаты.
**Калаўротак** з льняной кудзеляй — шчаслівае сямейнае жыццё.
**Калеку** бачыць — неспадзяваная дапамога; быць ім — сустрэнешся з цяжкасцямі.
**Калена** разбітае — нэндза; слабое — хвароба.
**Калода** карт — шчасце.

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Вучні падстаўновай школы з Астраўка ў мінулым годзе пачалі вывучаць беларускую мову. На здымку яны са сваёй настаўніцай Марыяй Чабан. Калі вы, дзеці, і сёлета вывучаеце беларускую мову, адзавіцеся, напішыце да „Зоркі". Чакаю.

Фота М. Гайдука.

Адразу за вёскай пачынаўся выган. Для дзяцей тут было раздолле. Больш за ўсё іх вабіў свежы зруб лазні, які вырас за апошнія два дні. Ад яго прыемна пахла смалою. Каля зруба ляжала бярвенне, валялася мноства кругляччкоў, дошак, трэсак і пяшчотна-ружовых, як мыльная пена, стружак.

— Давайце гуляць у дочкі-мацеры, — прапанавала тоўсценькая і румяная, як піражок, Люда.

— Давайце! — падтрымала яе Оля.

Оля была ў доўгім, як паліто, світары, які адзела ўпотайкі ад сястры. У ім Оля адчувала сябе зусім дарослай.

— Я буду маці, — важна заявіла яна.

— Не, я! Я першая сказала, што будзем гуляць у дочкі-мацеры, — запярэчыла Люда.

— Добра. Тады ў нас будзе дзве сям'і. Мы з Людай будзем мамамі, — абвясціла Оля. — Хто будзе жыць са мной?

— Я!... Я! — радасна заскакалі дзяўчынкі-блізняткі з аднолькавымі зайчыкамі на кішэнях паліто.

— А нам мозна з табой зыць? — спытаўся ў Люды маленькі хлопчык, тулячыся да сястры.

— Яшчэ саплівых мне не хапала, — пагардліва адказала Люда.

— Я не саплівы, — пакрыўджана шмаргануў носам хлопчык і пайшоў з сястрой жыць да Олі.

— А мяне возьмеш? — з надзеяй паглядзела ў вочы Людзе гэткая ж тоўсценькая, як і яна дзяўчынка.

— Цябе? Яшчэ чаго! — насмешліва фыркнула Люда. — Хто ўчора мне цукерку пашкадаваў? Вось і жыві цяпер з кім хочаш.

— У мяне ж была ўсяго адна цукерка, — разгублена апраўдвалася дзяўчынка.

— Не прасі яе, — умяшалася Оля. — Ты таксама будзеш жыць са мной.

— А са мной будзе жыць Наташка, — паказала Люда на чысценькую дзяўчынку з сінімі банцікамі ў валасах. — Хочаш быць маёй дачкой? — спытала яна ў дзяўчынкі.




Тая згодна кіўнула галавой і пайшла ўслед за Людай.

І дзеці пачалі абжываць свае хаты. Яны, як мурашкі, разбегліся ў розныя бакі і праз хвіліну цягнулі хто абрэзак дошкі, хто цагліну, хто стружкі.

— Гэта будзе ложак, — тлумачыла Оля, падкладваючы пад дошку кавалкі цэглы.

— А гэта люстэрка, — паклала на дошку кавалачак шкла тоўсценькая дзяўчынка.

Маленькі хлопчык з сястрой прыкацілі круглы цурбан. Атрымаўся стол, зусім як сапраўдны.

У другой сям'і таксама не сядзелі склаўшы рукі. Дзяўчынка з сінімі банцікамі знайшла дзесьці ржавы абруч ад бочкі.

— Што за дзіця! Валачэ ўсялякую дрэнь у хату, — накінулася на яе мама-Люда і шпурнула абруч убок.

А маленькі хлопчык з суседняй сям'і падняў абруч і, ззяючы ад радасці, крыкнуў:

— У нас будзе веласіпед!

Людзе гэта не спадабалася. Яна ўчапілася за абруч, з усяе сілы пацягнула да сябе. Хлопчык паваліўся, але абруча з рук не выпусціў.

— Аддай! Гэта мой абруч! Я першая яго знайшла.

— Як табе не сорамна крыўдзіць маленькіх! — заступілася мама-Оля і нахілілася да хлопчыка. — Аддай ёй абруч. —

Люда доўга не магла прыдумаць, што можна рабіць з абруча. Потым павесіла яго на жардзіну і сказала:

— Гэта будзе наш тэлевізар.

— А круглых тэлевізараў не бывае, — запярэчылі дзяўчынкі-блізняткі.

— Ну і што! А ў мяне будзе.

Люда павярнулася да сваёй дачкі і пачала наказваць:

— Нікуды з двара не выходзь. У хату нікога не пускай. Я пайду ў краму, а ты сядзі ціха. Зразумела?

Сінія банцікі пакорліва кіўнулі ў адказ.

У суседняй сям'і было весела. Дзеці разам нешта майстравалі.

(Працяг на стар. 10)




Віктар Швед

### ТАМАРА І ХМАРА

Маленькае Тамары
Ад сполаху не спіцца:
Са злосцю сыпле хмара
І гром, і бліскавіцы.

Магутны злосны вецер
Ёй не дае спакою
І гоніць па ўсім свеце
Хмарынку над зямлёю.

І бедная хмарынка
Ад гора плача горка.
Плывуць, плывуць слязінкі
Па шыбах з нападворку.

### АЛЕСЯ З ПАДЛЕССЯ

Малая Алеся
Паходзіць з Падлесся,
З-пад вялікай гушчы
Белавежскай пушчы.
Яна назаўсёды
Зроднена з народам,
Святыя ёй словы
Беларускай мовы.
У долі, нядолі,
Не здрадзіць ніколі
Родныя мясціны
І гонар Айчыны.

### НА КОЛЬКІ ГОД ШТАНІШКІ

Паехала жанчына
У магазін у горад
Купіць штаны для сына,
Ён зношвае іх скора.

— На колькі год штанішкі?
Пытае прадаўшчыца.
— На год? За месяц Мішка
Здзіравіць нагавіцы.

### ТВАЕ БОТЫ КІНЬ ПАД ПЛОТАМ

— Маем мы з табой турботы,
Як ніхто ў жыцці, дальбог.
Новенькія знішчыў боты,
Ужо звальваюцца з ног.

Распірае грудзі смутак,
Толькі ў нас з табой бяды.
Глянь, як новы мой абутак,
А нашу ўжо тры гады.

— Твае боцікі, мамуся,
Можна выкінуць пад плот.
Ужо цеснымі быць мусяць,
Калі ім так многа год.

### ЦІ МІКОЛА ЛЮБІЦЬ ШКОЛУ?

Запыталіся Міколу:
— Любіш ты хадзіць у школу?
Адказаў на гэта вучань:
— Мяне школа нудзіць, мучыць,
Я з хадой магу мірыцца,
Толькі не люблю вучыцца.

### ВАДА З МЫЛАМ

Маленькая Ганулe
У цёплы ранак, скорым,
Прыехала з матуляй
Упершыню над мора.

Б'юць хвалі з пенай белай
У бераг з цэлай сілы.
— Глянь, мама, ускіпела
У моры вада з мылам.

### МІЛЫ КОЦІК, ДЗЕ ТВОЙ БОЦІК?

Дзедка запытаўся: — Коцік,
Мой унучак дарагі,
У адным ты ходзіш боце,
А дзе ж боцік твой другі?

— Я другі свой боцік маю, —
Дзедку адказаў Лявон, —
Толькі першага шукаю,
Недзе ўжо патупаў ён.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

Падручнік беларускай мовы для пятага класа
Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

## СТРАЛЕЦ І РЫБАК

**Пачатак у папярэднім нумары**

Засталіся сыны гаспадарамі. Доўга яны гаспадарылі ці надоўга, але хутка дажыліся так, што няма чаго, як кажуць, і ў рот палажыць. Пачалі браты спрачацца, хто вінаваты. Спрачаліся, спрачаліся, а праўды так і не знайшлі.

Толькі вось праз некаторы час зноў зайшоў той стары жабрак. Ну, вядома, трэба накарміць чалавека з дарогі. А ў братоў — ні кавалка хлеба.

Стралец дакарае рыбака:

— Няхай бы хоць якую людскую рыбіну злавіў, каб было чым чужога чалавека прыняць.

А рыбак адказвае стральцу:

— Няхай бы хоць якое казляня падстрэліў...

Паслухаў іх жабрак і кажа:

— Дзякую вам, хлопчыкі, за клопат. Ёсць у мяне хлеб, што добрыя людзі далі.

Дастаў ён з торбы хлеб, сала і пачаў частаваць стральца і рыбака. Сорамна ім прыняць пачастунак ад беднага жабрака, ды голад не цётка. Накінуліся браты на жабракову торбу і, як бач, усю апаражнілі.

— Чаму ж вы такія бедныя? — пытаецца ў іх жабрак. — Хіба ў вас няшчасце якое ці што?

Браты цяжка ўздыхнулі:

— Зусім прапала наша гаспадарка...

— Як жа вы раней жылі?

— Бацька гаспадарыў, то і хлеб вёўся.

— А што ён, ваш бацька, малады ці стары?

— Ды зусім стары ўжо...

— Вось бачыце, — кажа жабрак, — ён стары, ды гаспадаркаю карміўся сам і вас карміў. А вы, маладыя, дужыя і без хлеба галееце...

Брыдка стала братам, радзей пачалі яны са стрэльбай ды з вудай цягацца, а больш гаспадаркай займацца.

Мінуў год, і зажылі яны зноў, як трэба.

Тым часам вярнуўся бацька з гасцей. Паглядзеў: гаспадарка як мае быць. Узрадаваўся ён і кажа да сыноў:

— Вось цяпер я магу спакойна і паміраць, бо бачу, што вы розуму набраліся: хоць ловіце і стралнеце, але і гаспадарку даглядаеце.

Запісаў Міхал Федароўскі
Апрацаваў Алесь Якімовіч

*1. Складзіце план казкі пытальнымі сказамі. Перакажыце па плану змест казкі.*

*2. Вызначце тэму казкі. Ці ёсць у ёй пабочныя тэмы?*

*3. Падумайце і як мага карацей адкажыце, якая галоўная думка выказана ў казцы.*

## ІДЭЯ ЛІТАРАТУРНАГА ТВОРА

Тэма літаратурнага твора цесна звязана з яго ідэяй (myślą przewodnią).

**Ідэя — гэта галоўная думка літаратурнага твора.** Ідэя можа быць па-рознаму выказана ў творы. У байцы „Другагоднік" паэт У. Корбан выразіў галоўную думку свайго твора парадай школьнікам: калі ты застаўся на другі год у тым самым класе, не спадзявайся на свае веды з мінулага года — вучыся добра і старанна, каб зноў не застацца.

У казцы „Стралец і рыбак" галоўная думка заключаецца ў сцвярджэнні, што толькі дзякуючы старанлівай працы на гаспадарцы можа шчаслівая жыць чалавек. Гэтая думка выказана ўсім зместам казкі.

Генадзь Бураўкін

## МУРАШ

З вялізнай жоўтай саломінай —
Падгінаюцца ногі аж —
Поўз па галінцы зломленай
Лупаты, лабаты мураш.

Спыніўся, каб дых перавесці.
І я падышоў да яго.
— Слухай, — кажу, — урэшце,
Рвешся ты да чаго?

Ты ад работы аж чорны.
Аддыхайся, не спяшы.
Праўду пішуць вучоныя —
Дзіўныя вы, мурашы...

Ён сеў ля саломіны чынна —
Пот бліснуў на ілбе:
— Вам памагаюць машыны.
А мы ж усё — на сабе.

У вас і лазер, і атам,
І краны, і трактары.
А ў нас — шэсць лап
слабаватых
Ды цёплае сонца ўгары.

У нас трэба ўсё самому.
На ўласным сваім плячы
Колькі цяжкіх саломін
Трэба прывалачы!

Выспацца нават некалі:
Лёг, а ўжо трэба ўставаць...
Паслухай,
будзь чалавекам —
Не перашкаджай працаваць!..

Аляксей Пысін

## З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ЧАЛАВЕК?

З чаго чалавек пачынаецца?
У калысцы ён калыхаецца.

А пакідае калыску, —
Бярэцца за лыжку і міску.

Добра трымаючы лыжку,
Глядзець пачынае у кніжку.

Што яшчэ возьмеце ў свеце, —
Скажаце, як падрасцеце.

# ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 225033, Брэсцкая вобласць, Брэсцкі раён, с. Вялікія Матыкалы, вул. Цэнтральная, д. 3, кв. 22. Серадзе Наталлі. 6 клас.

— ✳ —

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Вятская, дом 106, кв. 130. Анжеле. 6 клас.

— ✳ —

СССР, 344020, г. Ростов-на--Дону, ул. Грисенко, 76, кв. 1. Каплун Марине. 6 клас.

— ✳ —

СССР, 346504, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Дачная, 80. Галушкиной Ане. 6 клас.

— ✳ —

СССР, 344114, г. Ростов-на--Дону, ул. Орбитальная, 70/2, кв. 38. Володченко Наташе. 7 клас.

— ✳ —

СССР, 346515, г. Шахты-15, Ростовской обл., пер. Рудничный, 12. Кузнецову Валентину. 8 год.

— ✳ —

СССР, 346554, г. Шахты, Ростовской обл., п. Таловый, ул. Ленина, 13, кв. 32. Семененко Люде. 6 клас.

— ✳ —

СССР, 347011, Ростовская обл., Бело-Калитвенский район, п. Коксовый, ул. Базарная, 50. Парфёновой Оксане. 3 клас.

— ✳ —

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Ильюшина 30, кв. 61. Куликовой Татьяне. 16 год.

— ✳ —

СССР, 340036, г. Донецк-36, ул. Топчиева, 31. Байдалава Таня. 5 клас.

— ✳ —

СССР, 344093, г. Ростов-на-Дону, ул. Туполева, 15/14. Бареевой Нелли. 12 год.

# Вясёлы кутОчак

— ✳ —

Пеця прынёс дадому пасведчанне аб заканчэнні першага паўгоддзя. Тата паглядзеў яго і кажа:

— Маю надзею, што на канец года будзе лепшае.

— Цешуся, тата, што не траціш надзеі, — адказвае Пеця.

— ✳ —

— Ці я добра чуў, капітане? Наша лодка працякае? — пытаецца марак у капітана на поўным моры.

— Працякае, — адказвае капітан.

— Але ж я плаваць не ўмею? Што рабіць?

— Лодка пойдзе на дно памалу, — адказвае капітан, — вучыся плаваць.

(Працяг са стар. 9)

# ВЯЛІКАЯ СЯМ'Я

крычалі, смяяліся. А дзяўчынка з сінімі банцікамі сядзела сумная. Урэшце яна не вытрымала і жаласліва папрасіла:

— Вазьміце мяне да сябе жыць.

Неўзабаве ўсе дзеці гулялі адной дружнай сям'ёй. Толькі Люда асталася адна.

— Падумаеш! — крычала яна са свайго кутка. — Мне ў сто разоў лепей адной. Ніхто не перашкаджае... І арэхі ў мяне ёсць, і семкі... Нікому не дам, калі вы такія...

Але дзеці не слухалі яе.

І Людзе стала сумна адной. Нясмела падышла яна да дружнай вялікай сям'і і папрасіла:

— Давайце гуляць спачатку...

Марыя Філіповіч

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



З пададзеных кавалкаў складзі карцінку.



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радые.

### ШУКАЮ ЦЯБЕ

(З рэпертуару „Планеты")

Збіраю шорахі вятроў і траў,
І лівняў подыхі, што май прыслаў,
Ракі бяздоннай глыбіню,
Збіраю хвоі пах і дрэваў,
І прыгажосць вясковых спеваў,
Што імчацца хутка над зямлёю.

Прыпеў:
Мне не так ужо многа і трэба
Дзеля ўзлёту на сёмае неба.
Дайце мне ўзлёт жураўліны
І клёкат бусліны, усмешку каханых вачэй,
Красу беларускіх начэй.

Цябе шукаю ў глухіх начах,
Цябе шукаю ў былых вятрах,
Цвіце пралескамі світанне,
А сэрца помніць рук тваіх цяпло,
А шчасце наша па рацэ сплыло
Трывожнай песняй развітання.

Прыпеў.

Яшчэ не скончана жыццё маё,
Будзе вясна і будзе росны май,
Будзе разліў пад жуpавамі,
Але не будзе цеплыні начэй
Бяздоннай Просны і тваіх вачэй,
Але застанецца каханне.

Байка ў прозе

### ЯК ПАГЛЯДЗЕЦЬ...

Хавалі старога Пітона. За труной паўзло безліч змей. І ўсе яны горка плакалі.

— Эт, размякаюць, — з агідай сказаў з натоўпу Мангуст. — Нябожчык пры жыцці быў надзвычай злосным і жорсткім. Ужо колькі я за свой век бачыў злодзеяў, а такога не сустракаў...

Так во яно і выходзіць: каму гад, а каму бацька...

**Язэп Таўшчэзны**



Хаджэнне па муках.

# НІЎКА





Качка — сябар чалавека, чалавек сябар качкі.

### СУР'ЁЗНАЯ ПРЫЧЫНА

— Сёння цэлы дзень няма нашага дырэктара! — кажа адзін службовец другому.

— Захварэў?

— Не ён, а яго вадзіцель.

### У ШКОЛЕ

На ўроку хіміі настаўнік пытае вучня:

— У чым растваpаюцца тлушчы?

— У каструлі...

### НАВОШТА ЎСТАВАЦЬ?

— Уставай, Міколка, — будзіць бацька сына-першакласніка, — пара ўжо.

— А навошта ўставаць? — пытае сын спрасонку.

— У школу пара, грызці граніт навукі, — адказвае жартуючы бацька.

— А чым я яго буду грызці? — кажа сур'ёзна сын. — У мяне ўчора яшчэ адзін зуб выпаў...



Песіміст: „Горш быць не можа". Аптыміст: „Можа! Можа!"

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ці можна па скромнай цане наняць каня для ранішніх прагулак вярхом? — цікавіцца шатландзец у школе коннай язды.

— Вядома! Якого менавіта каня вы хочаце: спакойнага, наравістага?

— Доўгага!

— Доўгага?

— Ну так! Нас жа восем чалавек...

*

— Віншую з днём нараджэння!

— Дзякую! Вельмі дзякую! Вы не паверыце, але ніводзін нягоднік, апрача вас, не прыйшоў мяне павіншаваць!

*

Дырэктар універмага пытае свайго намесніка:

— Біл, дык мы давалі аб'яву, што шукаем начнога вартаўніка, ці не так? І якія вынікі?

— Учора нас абакралі.

### МІНІВЕРШЫ

Мне ў атэлье пашылі боты.
Каб іх надзець — пралiў
нямала поту.

*

Ён мнагажонства асуджаў
І жонак кожны раз мяняў.

*

Без памяці ў яе ён закаханы,
Бо ён заўжды бывае п'яны.

*

Усё жыццё пакутваў
ад напасці:
Дзе бачыў што — хацелася
ўкрасці.

**Мікалай Місюк**

З „Весніка Задрыпоніі"

### ГІСТОРЫЯ БАРАЦЬБЫ

Сенсацыйнае адкрыццё зрабіў вядомы задрыпанскі вучоны А. Шаламлевіч, які праводзіў раскопкі скіфскіх курганоў I—II стагоддзяў да н.э. Ім былі выяўлены дзесяткі разбітых гліняных амфор, у якіх скіфы захоўвалі віно.

— Гэтыя знаходкі пераканаўча даказваюць, што яшчэ два тысячагоддзі назад вялася актыўная барацьба з п'янствам і алкагалізмам, — заявіў вучоны нашаму карэспандэнту.



### ПАРАДА МАЦІ

— Парайце, мама, што мне рабіць? Я проста сама не ведаю, каго з трох выбраць. Адзін добра зарабляе, другі — вельмі разумны, а трэці — цудоўна танцуе.

— А той першы, — кажа маці, — не мог бы навучыцца танцаваць?

З суседскага агародчыка.



— Тата, я пяцёрку прынёс: у карты выйграў.

### НЕ ПРЫКМЕЦІЎ

Прыехаў у вёску гараджанін.

— Прыгожая цялушка ў вас, дзядуля. А колькі ёй год?

— Два.

— А па чым жа вы пазналі?

— Па рагах.

— Сапраўды. А я і не прыкмеціў, што ў яе два рагі.



# Курёзы

### ТЭАТРАЛЬНЫЯ НАВІНЫ

„Сялянская трылогія для вялікай рагатай жывёлы" — такая назва новага спектакля, пастаўленага на адной наватарскай сцэне Парыжа.

Дзеючымі асобамі ды выканаўцамі былі: дванаццаць авечак, адна свіння, адна карова, адзін конь і тры акцёры.

Найбольш воплескаў выпала на долю свінні Бібі.

### З КНІГІ ГІНЕСА

Часта рэкорды толькі-толькі паспяваюць ускалыхнуць аматараў, як іх пабівае нехта іншы. Так, мексіканскі гумарыст Хуан Каон 25 гадзін запар расказваў анекдоты і абяцаў давесці свой марафон да 27 гадзін. Потым аказалася, што 16-гадовы вучань са Шры Ланкі Кумарасінгхе ўжо гаварыў без перапынку аж 6 дзён і 15 гадзін, толькі кожную гадзіну ён 5 хвілін затрачваў на тое, каб выпіць шклянку малака альбо соку. Паштовы служачы сіцыліец Маўрысіо Стэфана прагаварыў перад мікрафонам аж 259 гадзін — каля 11-ці сутак, адпачываючы ў гадзіну 15 мінут. А дыктар адной радыёстанцыі Дамініканскай Рэспублікі па прозвішчу Давід Санта-Марыя вёў перадачы 338 гадзін запар — больш як 44 сутак.




Чым вышэй задзерты нос, тым лягчэй за яго вадзіць.